Наша Свабода
№9(96) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

24 СТУДЗЕНЯ 2001 года СЕРАДА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ

## Чыноўнікі страцілі сумленне



стар.2

## Аварыя на Смаленскай АЭС

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

Учора ў 5.42 па беларускім часе на Смаленскай атамнай энергетычнай станцыі, што месціцца непадалёк ад мяжы з Беларуссю, адбылася аварыя. На другім энергаблоку АЭС спрацавала сістэма аўтаматычнай абароны. Энергаблок быў спынены і разгружаны ў сувязі са з'яўленнем «дэфекту». Пра гэта паведаміла агенцтва «Интерфакс».

Як паведамляюць РИА «Новости», другі энергаблок быў спынены, а ядзернае паліва – уран – з яго было выгружанае. Эксперты паведамляюць, што ў блоку быў знойдзены «дэфект». Цяпер, па словах энергетыкаў, будзе высвятляцца прычына з'яўлення дэфекту. У «Росэнергоатоме» паведамілі, што дэфект, «хутчэй за ўсё, з'яўляецца тэхналагічным і, магчыма, схаваным».

На станцыі створаная камісія, якая займаецца высвятленнем абставінаў і прычынаў, што пацягнулі вывад з эксплуатацыі другога энергаблока Смаленскай АЭС. Прадстаўнік гэтай камісіі Сяргей Крылоў паведаміў, што адна з асноўных версіяў адключэння энергаблока – «збой у сістэме абароны рэактара, а не перашкоды ў функцываванні самога рэактара».

Смаленская АЭС мае тры энергаблокі РБМК, гэта такія самыя энергаблокі, што стаялі на Чарнобыльскай АЭС. Агульная праектная магутнасць станцыі – 3 тысячы мегават. Першы блок не працуе, бо знаходзіцца на планавым капітальным рамонце. Цяпер не працуе і другі блок. ■



Фота IREX/ProMedia

● 22 студзеня ў Мінску на Дражненскім завулку адчыніліся дзверы першай для бамжоў начлежкі. Першыя наведвальнікі гэтай установы ўжо знаёмяцца з правіламі пражывання (падрабязнасці на стар.2)

# Беларусы на сесіі ПАСЕ ў Страсбургу

Рыгор БУЯН

**22 студзеня ў Страсбургу пачалася сесія Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы, адным з пытанняў якой значыцца разгляд «беларускага пытання».**



Гэта робіцца штогод пачынаючы са студзеня 1997 года, калі Савет Еўропы, не прызнаўшы вынікаў лістападаўскага рэферэндуму 96-га года, пазбавіў парламент Беларусі статусу спецыяльна запрошанага ў ПА СЕ. Гэта азначае, што беларускія ўлады просяць вярнуць краіне статус «спецыяльна запрошанага», аднак кожны раз атрымоўваюць ад варот паварот. Не прызнаўшы палату №1, ПА СЕ не мае падставаў для прызнання і палаты №2, якая фармавалася з маштабнымі парушэннямі заканадаўства.

Дэлегацыя ўрадавага боку, у якую ўвайшлі Уладзімір Навасяд, Уладзімір Канаплёў, Аляксандр Шпілеўскі, прыбыла ў Страсбург яшчэ 21 студзеня, выкарыстаўшы вольны дзень для нефармальных сустрэчаў. Іхнімі суразмоўцамі пераважна былі палітыкі з Расіі ды іншых краінаў СНД. Дэлегацыя палітычнай апазіцыі, у складзе якой экс-прэм'ер Міхаіл Чыгір, старшыня АГП Анатоль Лябедзька ды лідэр партыі жанчынаў «Надзея» Валянціна Палевікова, прыляцела ў Страсбург вечарам 22 студзеня.

«Беларускае пытанне» Палітычны камітэт ПА СЕ меўся разглядзець 23 студзеня, прычым, як гэта заўсёды адбывалася, на працягу гадзіны-паўтары. За адведзены час Палітычны камітэт мусіў вырашыць: прызнаваць ці не прызнаваць палату №2 легітымным парламентам Беларусі. Мяркуючы па выказваннях лорда Расэла Джонсана на прэс-канферэнцыі, ПА СЕ не памяняла сваіх адносінаў да «выбарчага фарсу». «Я не думаю, што дасягнуты пэўны прагрэс, які мог бы задаволіць. На мінулым тыдні я сустракаўся з прадстаўнікамі беларускай дэлегацыі і ў чарговы раз сказаў ім, што ўсё залежыць ад зменаў унутры краіны, асабліва ад перагляду функцыяў парламента, які зараз не выконвае ніякай ролі».

Варта зазначыць, што ў адрозненне ад трох папярэдніх разглядаў «беларускага пытання», на якія запрашаліся як прадстаўнікі палаты прадстаўнікоў, так і Вярхоўнага Савета 13 склікання, гэтым разам Страсбург змяніў фармат паседжання. Замест дэлегацыі ВС у Страсбург былі запрошаныя тры прэтэндэнты на адзінага кандыдата ў прэзідэнты ад апазіцыі. Аднак у выніку паехала «змешаная» каманда апазіцыі.

Кіраўнік «Рэгіянальнай Беларусі» Сямён Домаш патлумачыў немагчымасць прысутнасці ў Страсбургу трыма прычынамі. «Калі я атрымаў афіцыйнае запрашэнне ў Страсбург, то было ўжо позна; апрача таго, я запрашаўся як прадстаўнік КРДС. Але ж я не маю ў Каардынацыйнай радзе ніякіх паўнамоцтваў – ёсць старшынствуючы на паседжаннях, а гэта старшыня жаночай партыі «Надзея» Валянціна Палевікова. Гэта першая прычына.

Па-другое, я даведаўся, што беларуская дэлегацыя, з аднаго боку, прадстаўленая палатай прадстаўнікоў, і трыма магчымымі кандыдатамі ў прэзідэнты – з другога боку. Аднак падобныя слуханні павінны праводзіцца ў прысутнасці абодвух бакоў: калі запрашаецца палата прадстаўнікоў, то мусіць быць прадстаўлены і Вярхоўны Савет, як гэта было заўсёды. Аднак мяне не запрашалі ў Страсбург як прадстаўніка Вярхоўнага Савета.

Трэцяя прычына заключаецца ў тым, што запрашэнне ў Страсбург выклікане цікаўнасцю да «тройкі» магчымых кандыдатаў у прэзідэнты. Але я прытрымліваюся прынцыповай пазіцыі, што лёс прэзідэнцкіх выбараў будзе вырашацца толькі на Беларусі і толькі народам Беларусі. Таму нам няма патрэбы заручацца падтрымкай ці здабываць сімпатыі Захаду – нам патрэбная падтрымка беларускага народа».

Першы сакратар ЦК ПКБ, кіраўнік фракцыі камуністаў у ВС Сяргей Калякін, які прысутнічаў на трох папярэдніх разглядах «беларускага пытання» ў рамках ПА СЕ, упэўнены, што чацвёртая спроба ўрадавага боку вярнуць палаце прадстаўнікоў статус «спецыяльна запрошанага» загадзя правальная. Еўропа не прызнае вынікаў леташняга «выбарчага фарсу» – і «парламенцкая тройка», і ПА СЕ неаднаразова выказваліся на гэты конт. ■

## НАВІНЫ

■ **Хваля крымінальных справаў на падазрэнні ў хабарніцтве днямі дакацілася да Магілёва.** У момант атрымання хабару ад прадстаўніка маскоўскай фірмы «Амега» ў 14 тысячаў долараў супрацоўнікамі Дзяржаўнага камітэта фінансавых расследаванняў затрыманыя галоўны інжынер і дырэктар магілёўскага аб'яднання «Мясамалпрам».

■ **З 1 ліпеня ў Беларусі будзе ўведзеная забарона на гандаль і аказванне паслугаў без касавых апаратаў.** Гэтак Дзяржаўны падатковы камітэт збіраецца кантраляваць абарачэнне наяўных грошай і змагацца з прыхоўваннем даходаў ад падаткаабкладання. Для надзейнасці блокі памяці «касаў» мяркуецца пламбаваць.

■ **Беларускі ўрад выдаў пастанову аб фінансаванні дзяржаўных выданняў у 2001 годзе.** Прычым сёлетнія датацыі ў параўнанні ў мінулым годам павялічыліся амаль удвая і склалі 11,7 мільярда рублёў. Гэтыя грошы будуць выдаткаваныя 46 дзяржаўным выданням.

■ **Мытнікі «Заходняга Буга» на пераходзе «Казловічы» затрымалі груз кветак агульным коштам каля 80 мільёнаў рублёў.** Кветкі па дакументах, у якіх вага грузу была значна заніжаная, спрабаваў правезці грамадзянін Расіі. Канфіскаваныя букеты будуць прададзеныя ў брэсцкіх крамах.

■ **Нацбанк Беларусі на 3 месяцы прыпыніў для «Тэхнабанка» дзеянне ліцэнзіі на ажыццяўленне шэрагу валютных аперацыяў.** Гэта сталася санкцыяй за выяўленыя падчас адмысловай праверкі факты невыканання валютнага заканадаўства. У выніку банк не можа ажыццяўляць ад свайго імя і за свой кошт аперацыі па канвертацыі валюты.

■ **За 2000 год у Беларусі было пакрадзена 60 млн. кілаватгадзінаў электраэнергіі.** Усё гэта каштавала 2,2 мільярда беларускіх рублёў. Па фактах крадзяжу цяпла і электраэнергіі з парушальнікаў спагнана ўсяго палова ад штрафных сумаў.

■ **Кошты працягваюць расці цяпер ужо ў новым годзе.** Паводле інфармацыі міністэрства статыстыкі і аналізу, за першыя два тыдні студзеня 2001 года спажывецкія цэны ў Беларусі павялічыліся на 2,3%.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА








Курс наяўнага долара на «чорным рынку»
1240

# Паталагічная прафсаюзафобія

Рыгор БУЯН

20 студзеня Савет Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай мусіў склікаць надзвычайнае паседжанне прэзідыума. Падставаю стала кампанія па нейтралізацыі буйнейшага прафсаюзнага аб'яднання краіны напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў, распачатая дзеючым рэжымам. Пачаткам чарговай антыпрафсаюзнай кампаніі варта лічыць нараду ў прэзідэнцкай адміністрацыі пад старшынствам Міхаіла Мясніковіча, якая прайшла за зачыненымі дзвярыма і выпрацавала стратэгію ўдушэння ФПБ.

Улады ўжо гатовыя ў процівагу снуючым прафсаюзам ствараць так званыя Саветы працоўных калектываў (СПК): адпаведны законапраект аб унясенні зменаў у закон «Аб прафесійных саюзах» ужо распрацаваны. З яго прынцэм права на аб'яднанне ў прафсаюзы пазбаўляюцца студэнты ВНУ – найбольш актыўная частка электарата, сярэдніх і сярэдне-спецыяльных установаў, а шлях на прадпрыемствы, у арганізацыі ды ўстановы для прафсаюзных лідэраў будзе закрыты. Да прыняцця гэтага праекта Савету міністраў прадпісана не заключаць трохбаковае Генеральнае пагадненне з ФПБ ды наймальнікамі.

«Вертыкаль» мусіць актывізаваць заключэнне кантрактаў з працоўнымі калектывамі як асноўнай формы працоўных адносінаў. Больш за тое, улады чарговы раз перакрываюць кісларод Федэрацыі, спрабуючы ўвесці табу на пералічэнне членскіх унёскаў праз бухгалтэрыі прадпрыемстваў. Такое ФПБ ужо перажыла напярэдадні леташняга з'езда, і тады яна ўпершыню аказалася ў нявыкрутцы.

Кіраўніцтва ФПБ заяўляе, што спушчаныя зверху дырэктывы з'яўляюцца «прамым пасягальніцтвам на канстытуцыйнае права грамадзянаў на абарону сваіх эканамічных і сацыяльных інтарэсаў». Пра гэтае прававое бязмежжа ФПБ ужо распавяла ў лістах, накіраваных міжнародным структурам, у тым ліку Міжнароднай арганізацыі працы (МАП). Камітэту па свабодзе асацыяцыяў МАП, які ў сакавіку плануе разглядаць скаргу трох галіновых прафсаюзаў на парушэнне іхніх правоў, у сувязі з апошнімі «наездамі» на ФПБ працы значна дабавіцца. Нягледзячы на тое, што мінпрацы ды МЗС Беларусі атрымалі ўказанне «давесці да ведама міжнародных арганізацыяў інфармацыю пра рэальную абстаноўку ў РБ і немэтазгоднасці накіроўваць тэхнічную місію МАП».

Ніхто не сумняваецца ў тым, што чарговы віток антыпрафсаюзнай кампаніі звязаны з удзелам ФПБ у прэзідэнцкай гонцы. Як вядома, лідэр Федэрацыі Уладзімір Ганчарык разглядаецца як адзін з фаварытаў прэзідэнцкай кампаніі. Негалосную згоду балатавацца кандыдатам у прэзідэнты ён ужо даў. Відавочна, што ўлада пакутуе на прафсаюзафобію, і нельга сказаць, што беспадстаўна. Менавіта ФПБ, якая налічвае ў сваіх шэрагах звыш 4,5 мільёна чалавек, яшчэ з савецкіх часоў захавала структуры па ўсёй краіне, няхай сабе і аморфныя, якія пры вялікім жаданні могуць ператварыцца ў рэальную небяспеку кіруючаму рэжыму. ■

# Кантроль над інфармацыйнымі патокамі ўзмацніцца

Юрый ПАЦЁМКІН

У Беларусі распрацаваны праект закона «Аб інфармацыйнай бяспецы». Гэты дакумент устанаўлівае асноўныя прынцыпы, мэты і задачы забеспячэння інфармацыйнай бяспекі на тэрыторыі Беларусі. Асноўнымі мэтамі забеспячэння інфармацыйнай бяспекі, згодна з законапраектам, з'яўляюцца абарона канстытуцыйных правоў асобы, грамадства і законных правоў юрыдычных асобаў на інфармацыю, неабходную для забеспячэння іх жыццядзейнасці; абарона асобы і грамадства ад шкодных інфармацыйных і інфармацыйна-тэхналагічных уздзеянняў; захаванне стабільнасці дзяржаўнага ладу і абарона дзяржаўнага суверэнітэту ва ўмовах уваходжання Беларусі ў сусветную інфармацыйную прастору «з улікам імкнення замежных дзяржаваў, партыяў, канфесіяў, іншых формаў грамадскіх арганізацыяў і сацыяльных групаў да інфармацыйнага дамініравання, якое ўшчамляе правы рэспублікі ў гэтай прасторы».

Да жыццёва важных інтарэсаў Беларусі ў інфармацыйнай сферы законапраект адносіць: стварэнне і развіццё нацыянальных грамадска значных інфармацыйных рэсурсаў; стварэнне і развіццё нацыянальнай сістэмы інфармацыйнай бяспекі, якая забяспечвае эфектыўнае супрацьдзеянне сродкам вядзення інфармацыйнай вайны супраць дзяржавы і грамадства; развіццё сістэмы нацыянальнага заканадаўства, рэгулюючай гэтую сферу; правядзенне знешняй і ўнутранай палітыкі, якая забяспечвае ўстойлівасць дзяржаўнага кіравання і абарону суверэнітэту Рэспублікі Беларусь ва ўмовах інфармацыйнай вайны супраць яе.

Законапраект выдзяляе чатыры віды пагрозаў інфармацыйнай бяспецы: пагрозы канстытуцыйным правам і свабодам грамадзянаў; пагрозы сацыяльнай стабільнасці і духоўнаму жыццю грамадства; пагрозы стабільнасці дзяржаўнага ладу; пагрозы дзяржаўнаму суверэнітэту і тэрытарыяльнай цэласнасці.

Так, згодна з дакументам, крыніцамі пагрозы канстытуцыйным правам і свабодам грамадзянаў з'яўляюцца ўтойванне жыццёва важнай інфармацыі; абмежаванне доступу да адкрытай урадавай і іншай сацыяльна значнай інфармацыі; супрацьдзеянне з боку розных структураў і групаў рэалізацыі грамадзянамі іх правоў і свабодаў; прыняцце органамі дзяржаўнай улады нарматыўных дакументаў, што з'яўляюцца неэфектыўнымі або парушаюць канстытуцыйныя правы і свабоды грамадзянаў.

Да пагрозаў сацыяльнай стабільнасці і духоўнаму жыццю грамадства адносяцца: мэтанакіраваны ціск на грамадства, які ажыццяўляецца ў інтарэсах пэўных палітычных і іншых дэструктыўных сілаў, які выкарыстоўвае арганізаваныя або стыхійна ўзнікаючыя інфармацыйныя патокі; навязванне заходніх каштоўнасцяў як найбольш сапраўдных, асабліва праз СМІ, «з выкарыстаннем дэструктыўных прыёмаў журналістыкі». ■

БелаПАН

# Швейцария не откажется от встречи с Бородиным

Министерство юстиции Швейцарии официально подтвердило, что генеральный прокурор Женевы и следователь Даниэль Дево отклонили просьбу России аннулировать международный ордер на задержание Павла Бородина и запрос на его выдачу из США в Швейцарию. Об этом заявил журналистам официальный представитель министерства юстиции Швейцарии Фолько Галли.

Как сообщает газета *Le Temps*, об этой позиции судебных властей сообщили министерству иностранных дел Швейцарии. Министерство подготовило соответствующую ноту для российского посольства в Берне.

Напомним, что 19 января МИД России направил швейцарской стороне ноту, в которой содержались гарантии явки Бородина в Швейцарию для дачи свидетельских показаний. При этом российская сторона выражала надежду, что швейцарские власти отзовут международный ордер на задержание Бородина и не будут настаивать на его экстрадиции из США.

Швейцарские власти ответили отказом на просьбу России, касающуюся отзыва ордера на арест Павла Бородина. Как стало сегодня известно, о соответствующем решении прокуратуры Женевы и следователя, ведущего так называемое «дело *Mabetex-Merkata*», Федеральный департамент иностранных дел уже информировал посольство России в Берне.

Обосновывая свою позицию, прокурор Женевы Бернар Бертосса заявил журналистам, что «процедуры должны осуществляться в соответствии с положениями закона». По его мнению, у российских властей нет юридических инструментов для того, чтобы заставить Павла Бородина приехать в Швейцарию.

По поводу выраженной Бородиным готовности приехать в Женеву женевский прокурор заявил в интервью швейцарской газете *Le Tempe*, что «для этого ему (Бородину) достаточно не сопротивляться требованию о его выдаче». Бернар Бертосса сообщил также, что, помимо ноты посольства России, касающейся Павла Бородина, предложение подобного рода поступило также из Генпрокуратуры РФ за подписью заместителя генерального прокурора Василия Колмогорова. Однако женевская юстиция осталась непреклонной.

Официальный представитель Федерального управления юстиции Фолко Галли подтвердил журналистам, что Бернар Бертосса и следователь Даниэль Дево «отклонили российское предложение», и сейчас швейцарский ФДИД готовит соответствующую ноту для российского посольства. ■

Lenta.ru

# МВФ вітае літоўскія рэформы

У штогадовай справаздачы аб эканамічнай сітуацыі ў Літве Міжнародны валютны фонд ацэньвае рост ВУП краіны ў 2000 годзе ў памеры 2,3% і інфляцыю на ўзроўні 1%.

МВФ выразіў задавальненне ўзнаўленнем эканамічнага росту ў 2000 годзе пасля спаду, меўшага месца ў 1999 годзе, на тле нізкай інфляцыі, зніжэння дэфіцыту плацёжнага балансу і стабілізацыі фінансавых рынкаў.

Сярод асноўных прычынаў паляпшэння асноўных макраэканамічных паказчыкаў Літвы радай дырэктараў МВФ названа рашучасць, з якой літоўскі урад ажыццяўляе грашовую і структурную рэформы. Фонд вітаў шэраг захадаў, скіраваных на змяншэнне бюджэтных расходаў, у прыватнасці, балючае, але неабходнае скарачэнне выдаткаў на сацыяльнае забеспячэнне.

Разам з тым Савет дырэктараў фонду падкрэсліў неабходнасць абмежавання дзяржаўных расходаў у 2001 годзе, правядзення рэформы кіравання ў мытнай і падатковай сферах, а таксама асцярожнага выкарыстання бюджэтных сродкаў, якія павінны размяркоўвацца з улікам сярэднетэрміновых задачаў урада. МВФ лічыць, што сума бюджэтных расходаў можа быць павялічаная толькі ў тым выпадку, калі даходы бюджэту ў першым паўгоддзі значна перавысяць прагнозы, а дэфіцыт бягучага плацежнага балансу знізіцца. Пры гэтым МВФ станоўча ацаніў бюджэт 2001 года. ■

# Литва не повышает стоимость транзита

Пётр СКОЧКОВ

Литва не повышала и не планирует повышать плату за транзит через свою территорию железнодорожных грузов. Так заявляют в посольстве Литвы в Беларуси на то, что Беларусь и Россия разрабатывает транспортные маршруты в обход литовской территории вследствие якобы введения Литвой «дискриминационных транзитных ставок».

Транзитные ставки для железнодорожных грузовых перевозок, действующие в Литве с 1995 года, «являются даже более низкими, чем в Беларуси и России, подчеркнули в посольстве».

Почвой для прозвучавших недавно заявлений представителей белорусского правительства относительно «дискриминационных транзитных ставок», как предположили в посольстве Литвы, могло стать решение о снижении стоимости транзита грузов, предназначенных для портов Клайпеды. ■

# Российский бизнес не интересует здоровье белорусов

С протестом «против строительства в свободной экономической зоне нефтеперерабатывающего предприятия» выступила созданная в Витебске инициативная группа представителей городских партийных организаций ОГП, БСДП «НГ», БНФ, ЛКСМБ и ряда общественных объединений города.

Они «протестуют против угрозы нарушения экологического равновесия в регионе, которая нависла в связи с планами строительства в СЭЗ «Витебск» холдингом «Лукойл» нефтеперерабатывающего предприятия». Как утверждается в письме-протесте, отправленном в республиканские средства массовой информации, администрацию президента, Тюменскую нефтегазовую компанию и компанию «Лукойл», «российский бизнес не интересует уровень здоровья белорусской нации».

Основным требованием инициативной группы является «полная отмена проекта». Активисты утверждают, что собрали уже больше 500 подписей в поддержку своих требований и намерены в ближайшее время подать заявку в горисполком на проведение митинга-протеста против строительства предприятия.

Как говорит начальник отдела инвестиций и внешнеэкономической деятельности СЭЗ «Витебск» Александр Зайцев, «проект строительства предприятия по обработке нефтепродуктов в СЭЗ прошел экологическую экспертизу и не окажет вредного влияния на окружающую среду».

Он подчеркнул, что российское предприятие «ЧессБел» будет размещено на территории склада ГСМ бывшей авиационной части в военном городке Журжево, входящего в состав СЭЗ, и имеет системы обвалования, ограждения и охраны». Предлагаемая российским инвестором технология замкнутого цикла, отметил А.Зайцев, «основана не на переработке нефтепродуктов, а на смешивании по оригинальной технологии бензиновых фракций с целью получения товарного бензина».

Как подчеркнул А.Зайцев, Белорусский государственный проектный институт проверил расчет санитарно-защитной зоны проекта и признал его соответствующим необходимым нормам. А.Зайцев также отметил, что к проекту «не имеют никакого отношения ни «Лукойл», ни Тюменская компания». ■

# Порядки бруклинской тюрьмы

**Дмитрий Старостин, корреспондент «Вести.Ru», отбывавший срок в США, рассказывает о тюрьме, где г-ну Бородину придется сидеть как минимум до 25 января.**

Павел Павлович сидит в одиночной камере. В американских следственных тюрьмах все они практически однотипны. Длина камеры — около четырех шагов, ширина — два или три. У Павла Павловича должна быть металлическая койка, приваренная к полу. На койке — матрац, заклеенный в пластик, тонкое одеяло, подушка и две простыни (пододеяльников не бывает). Унитаз тоже металлический, а прямо над ним — умывальник, такой, как в российских поездах дальнего следования. На потолке должна быть люминесцентная лампа, которую, за редким исключением, может включать и выключать только надзиратель.

Если Павел Павлович вообще в состоянии спать, завтра утром ослепительный свет разбудит его в 6:30 или в 7:00. Но вставать с койки задержанных (в отличие от осужденных) не заставляют. Арестанты из соседних камер, с которыми г-н Бородин, вероятно, уже познакомился, должны были посоветовать ему завязать глаза скатанной майкой или полотенцем и спокойно спать дальше. Если же



Павел Павлович захочет позавтракать, то надо приступать к утреннему туалету.

Рулон туалетной бумаги г-ну Бородину должны были выдать еще в первый день — так же как мыло и зубную пасту. А вот бритву ему придется попросить у надзирателя. В залог Павел Павлович должен будет оставить свое «удостоверение личности арестанта» с фотокарточкой, которое также выдают в приемном боксе. Если он бритву не вернет, его ждет карцер.

На завтрак во всех американских тюрьмах дают пакетик молока и хлеб, иногда слегка поджаренный. Скорее всего, Павлу Павловичу выдадут также пшеничные хлопья или миску овсяной каши. Федеральным арестантам нельзя ничего выносить из столовой. На выходе надзиратели могут обыскать. Если г-н Бородин попытается и его поймают, лучше не спорить, а просто сказать, что не знал. Что-то небольшое (например, гамбургер с обеда) можно пронести в войлочном ботинке. Разуваться, как правило, надзиратели не требуют.

Обед в федеральных тюрьмах бывает обычно между 11:00 и 12:00. Ужин — около 17:00. Эти две трапезы довольно сытные (рис, макароны, картошка с мясом), но вот на вечер ничего не остается. Впрочем, Павлу Павловичу могли уже рассказать, что как диабетик он имеет право на дополнительный сэндвич и печенье, которые выдают в лазарете около 21:00. Там же он будет получать и лекарства, которые судья Погорелски приказал выдавать ему по первому требованию. С собой в камеру г-ну Бородину не дадут ни одной таблетки, из опасения, что он использует их как наркотическое средство или для самоубийства.

Скорее всего, у Павла Павловича будет право на часовую прогулку. В некоторых федеральных тюрьмах можно ходить и в спортзал, где арестанты обычно занимаются культуризмом. Г-ну Бородину гарантирована также юридическая библиотека — но у него и так хорошие адвокаты. Обычные книги ему могут передать с воли, но только в мягкой обложке.

Федеральные тюрьмы исправно навещают капелланы различных вероисповеданий. Бывает, что приходит и православный священник (русский или греческий). Службы могут посещать заключенные из разных блоков, и для многих часовня — просто место встреч. Но Павел Павлович может и помолиться, даже исповедоваться. Это лучше, чем идти к тюремному психиатру, который каждую фразу г-на Бородина будет обязан приобщить к его уголовному делу. ■

# Камуністы рвуцца ў бой

Рыгор БУЯН

27 студзеня Партыя камуністаў (ПКБ) збірае ў Мінску трэцюю сесію 6 з'езда. Форум цалкам прысвечаны выбарчай тэматыцы. Першае пытанне ў парадку дня адведзеная для выпрацоўкі стратэгіі на давыбарах у палату №2. Па інфармацыі НАШАЙ СВАБОДЫ, камуністы плануюць закрыць усе 13 акругаў, па якіх выбары не адбыліся леташняй восенню. Аднак у цэнтры ўвагі дэлегатаў з'езда, безумоўна, будзе вызначэнне пазіцыі адносна прэзідэнцкай кампаніі. Яшчэ з 1999 года ў ПКБ пайшлі гаворкі пра неабходнасць ісці на прэзідэнцкія выбары з уласным кандыдатам – цяпер гэтае пытанне ўжо вырашанае. Хутчэй за ўсё, кандыдатам у прэзідэнты ад ПКБ стане яе лідэр Сяргей Калякін.

С.Калякін заявіў пра гатоўнасць ісці кандыдатам у прэзідэнты. «Ужо два гады таму ішла гаворка пра тое, што партыя павінна вылучаць уласнага кандыдата ў прэзідэнты. І я быў прыхільнікам такога падыходу, а таксама быў маральна гатовы да таго, што гэтая місія можа выпасці на мяне. Я маральна гатовы да гэтага», — заявіў Сяргей Калякін.

Лідэр камуністаў лічыць неабходным абапірацца ў часе прэзідэнцкай гонкі не толькі на сілы партыі, якая налічвае 10 тысячаў чалавек. С.Калякін спадзяецца на падтрымку не столькі палітычных партыяў, колькі на палітычна актыўную частку грамадства. «Сярод палітычных партыяў я не бачу вялікіх рэсурсаў, асабліва, калі прафсаюзы вылучаць свайго кандыдата, то ў нас увогуле звужаецца поле прыхільнікаў сярод палітычных партыяў ды арганізацыяў. Я цалкам разлічваю на падтрымку значнае часткі афіцэрскіх арганізацыяў, ветэранскіх арганізацыяў. Разлічваю я і на садзейнічанне асобных прафсаюзных арганізацыяў», — падкрэсліў С.Калякін. ■

